© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021


# Права на волю

№8(104)
Красавік 2002

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"


## ...Дзеля разгляду па сутнасьці

Вярхоўны суд РБ накіраваў скаргу Юрыя Зайцава аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы ў суд Савецкага раёну г.Гомелю дзеля разгляду па сутнасьці. Ю.Зайцаў – бацька Андрэя Зайцава, які 20 сьнежня 2001 году скончыў жыцьцё самагубствам пасьля спробы вярбоўкі з боку сьпецслужбаў.

Нагадаем, што суд Савецкага раёну г.Гомелю ўжо адмаўляўся разглядаць скаргу Ю.Зайцава на пастанову сьледчага пракуратуры Савецкага раёну г. Гомелю аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы. Аднак Юры Зайцаў і ягоны абаронца Дзьмітры Іванішка палічылі рашэньне суда незаконным і парушаючым іх правы.

Адвакат Дзьмітры Іванішка правёў апытаньне людзей, што непасрэдна кантактавалі з Андрэем Зайцавым, якія ведалі, што на яго аказваецца ціск. Тлумачэньні даў і Віктар Карніенка, кіраўнік Грамадзкага аб'яднаньня "Грамадзянскія ініцыятывы", які распавёў адвакату: "Андрэй сказаў, што яму прапаноўваюць супрацоўніцтва з КДБ, і што прадметам супрацоўніцтва таксама зьяўляецца аб'яднаньне "Грамадзянскія ініцыятывы". Зайцаў спытаў, што яму рабіць? Я параіў яму зьвярнуцца ў праваабарончыя арганізацыі. Андрэй патлумачыў, што ад яго патрабавалі ў адносінах да "Грамадзянскіх ініцыятываў". Па-першае, яго прасілі часьцей бываць у арганізацыі і скласьці сьпіс тых, хто ў нас бывае. Падругое, адзначаць, што адбываецца ў арганізацыі, якія вядуцца размовы. Патрэцяе, гэта, магчыма, прыносіць у "Грамадзянскія ініцыятывы" па просьбе супрацоўнікаў КДБ некаторыя матэрыялы, паперы, прадметы. У гэтай жа размове ён мне патлумачыў, як яго выклікалі ў ваенкамат, дзе быў супрацоўнік КДБ, як ён назваўся "Еўсьцігнееў", як яго запалохвалі".



Фота "ПнВ"

# Гвалт у цэнтры сталіцы

### *19 красавіка мірная дэманстрацыя ў Мінску была жорстка разагнаная ўладамі*


Фота IREX/ProMedia

Марш пратэсту "Так жыць нельга" быў арганізаваны дзеля таго, каб зьвярнуць увагу грамадзкасьці на праблему невыкананьня Аляксандрам Лукашэнкам абяцаньняў, якія ён даваў выбаршчыкам у якасьці кандыдата ў прэзідэнты. Арганізатарамі акцыі выступілі кінарэжысёр Юры Хашчавацкі, праваабаронца і журналіст Валеры Шчукін, каардынатар Хартыі-97 Зьміцер Бандарэнка і актывіст моладзевага руху "Зубр" Цімафей Дранчук.

Акцыя пачалася ў 18.00 на плошчы Якуба Коласа. Калона ўдзельнікаў дайшла да скрыжаваньня праспекту Скарыны і вуліцы Варвашэні, дзе шлях быў перакрыты АМАПаўцамі і сьпецназаўцамі. Калона рэзка павярнула назад

*(Працяг на стар. 2-3)*


Фота IREX/ProMedia


Фота IREX/ProMedia

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# Гвалт у цэнтры сталіцы

(Пачатак на стар.1)

у накірунку да плошчы Якуба Коласа. У гэты час пад'ехалі аўтобусы і пачаўся "хапун". Частка ўдзельнікаў акцыі села проста на асфальт, і іх амапаўцы пачалі жорстка зьбіваць.

Затрыманьні адбываліся таксама ў раёне Акадэміі фізкультуры, на самой плошчы Якуба Коласа супрацоўнікі АМАПу правялі зачыстку, загнаўшы частку людзей у метро.

Быў моцна зьбіты і дастаўлены ў бальніцу праваабаронца Валеры Шчукін. З сатрасеньнем мозгу дастаўлены ў бальніцу Ялавіцкі. Машына "хуткай дапамогі" была выкліканая і да Савецкага РУУС, куды былі дастаўленыя затрыманыя. У адным з аўтобусаў АМАПаўцы зьбілі цяжарную жанчыну.

Да Савецкага РУУС падагнаныя аўтобусы з АМАПаўцамі, якія акружылі будынак і не падпускалі да яго журналістаў і праваабаронцаў, адцясьніўшы іх на вялікую адлегласьць.



Валеры ШЧУКІН з унукамі на дэманстрацыі... Фота "ПнВ"



Валеры ШЧУКІН зьбіты міліцыянтамі... Фота "ПнВ"

Сярод затрыманых:

1. ***Бародка Зьміцер***;
2. ***Мяцеліца Алег***;
3. ***Халезін Мікалай*** (журналіст);
4. ***Арэшка Зьміцер***;
5. ***Васілюк Юрась***;
6. ***Ясюк Марына*** (непаўнагадовая);
7. ***Ігнатовіч***;
8. ***Шварэў Яўген***;
9. ***Падзывалаў*** (моцна зьбіты);
10. ***Аскерка Анатоль***;
11. ***Карпенка Дзмітры***;
12. ***Аксёнаў Максім***;
13. ***Бандарэнка Зьміцер*** (каардынатар Хартыі-97);
14. ***Садоўскі Лявон***;
15. ***Радзіна Наталя*** (журналістка);
16. ***Хашчавацкі Юры*** (кінарэжысёр);
17. ***Пятроў Андрэй***;
18. ***Баравік Кацярына***;
19. ***Афнагель Яўген***;
20. ***Ачапоўскі Леанід***;
21. ***Васілюк Юрась***;
22. ***Анджыеўская Аляксандра***;
23. ***Атрошчанкаў Аляксандр***;
24. ***Бохан Сяргей***;
25. ***Дзегцяроў І.***;
26. ***Ідзевіч В.***;
27. ***Грыдзюшка А.***;
28. ***Лядко С.***;
29. ***Яцко В.***;
30. ***Яцко С.***;
31. ***Тутжык Ф.***;
32. ***Мяцелік***;
33. ***Пенкін Сяргей***;
34. ***Шумскі Я.***;
35. ***Голубеў Зьміцер***;
36. ***Холад А.***;
37. ***Яшчанка А.***;
38. ***Васкрасенскі Юрась***;
39. ***Ялавіцкі*** (шпіталізаваны з сатрасеньнем мозгу);
40. ***Ядко*** (зьбітая, магчымае сатрасеньне мозгу);
41. ***Казакевіч Раман***;
42. ***Кучынская Любоў***;
43. ***Мацакоўскі Зьміцер***;
44. ***Карповіч Раман***;
45. ***Вішнеўскі Зьміцер***;
46. ***Дзядко Кацярына***;
47. ***Фабішэўскі Юрась***;
48. ***Кедышка Сяргей***;
49. ***Жакаў Васіль***;
50. ***Шыраеў Максім***;
51. ***Ясюк Аляксандра***;
52. ***Галавацкі***;
53. ***Осіпаў*** (у РУУСе стала кепска, выклікалі «хуткую», шпіталізавалі);
54. ***Варанько Юрась***;
55. ***Асмалоўскі Андрэй***;
56. ***Савіцкі Мікола***;
57. ***Рабкевіч Сяргей***;
58. ***Рашэтнікава Алена***;
59. ***Лепін Георгі***;
60. ***Жлобіч Віталь***;
61. ***Казакоў*** (непаўнагадовы);
62. ***Барсукоў*** (непаўнагадовы);
63. ***Балоціна*** (непаўнагадовая);
64. ***Дорына*** (непаўанагадовая);
65. ***Варажур*** (непаўнагадовы);
66. ***Шадзіевіч Цімох*** (непаўнагадовы);
67. ***Шадзіевіч Васіль***;
68. ***Строцкі Аляксей*** (непаўнагадовы);
69. ***Сасім Мікіта***;
70. ***Ямшыкоў***;
71. ***Чыкалёў Дзяніс***;
72. ***Лугаўцоў***;
73. ***Труханенка Ніна***;
74. ***Мурашка Казімір***;
75. ***Жлутка Алег***;

Сьпіс няпоўны.

Па папярэдніх зьвестках усяго затрымана 85 чалавек.

***22 красавіка*** ў судах Савецкага, Партызанскага і Цэнтральнага раёнаў г.Мінску адбываліся суды над удзельнікамі акцыі "Так жыць нельга!".

На гэты раз у судах зьявілася новая тэндэнцыя – тыя, хто патрабаваў удзелу адваката, накіроўваліся зноў на Акрэсьціна – у сьпецпрыёмнік-размеркавальнік, нягледзячы на довады: "у камеры няма тэлефону, і я ня здолею, знаходзячыся ў сьпецпрыёмніку, зьвязацца з адвакатам". З гэтага вынікае, што адміністратыўнае затрыманьне ня мае абмежаваньняў у часе, і чалавек можа знаходзіцца за кратамі, пакуль суд не разгледзіць ягоную справу – на працягу тыдня, месяца і г.д. Гэтая практыка парушае Канстытуцыйнае права (арт. 62) адміністратыўна затрыманых на абарону, бо чалавек ня мае магчымасьці заключыць дамову з адвакатам, знаходзячыся ў сьпецпрыёмніку-размеркавальніку. Гэтая заганная практыка вельмі небясьпечная, бо ўлады могуць выкарыстоўваць і трактаваць адміністратыўнае заканадаўства ў сваіх мэтах.

*Суд Савецкага раёну г. Мінску:*

***Хашчавацкі Юры*** (кінарэжысёр, адзін з арганізатараў акцыі "Так жыць нельга") – 10 сутак адміністратыўнага арышту;

***Пенкін Сяргей*** – штраф у памеры 30 базавых адзінак (300 тыс. беларускіх рублёў);

***Вядзевіч Віталь*** – 7 сутак адміністратыўнага арышту;

***Шыраеў Максім*** – штраф у памеры 25 базавых адзінак (250 тыс. беларускіх рублёў);

***Жлобіч Віталь*** — штраф у памеры 25 базавых адзінак, (250 тыс. беларускіх рублёў);

***Кедышка Сяргей*** – штраф у памеры 30 базавых адзінак (300 тыс. беларускіх рублёў);

***Дзядко Кацярына*** — штраф у памеры 30 базавых адзінак (300 тыс. беларускіх рублёў);

***Анджыеўская Аляксандра*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту

***Кучынская Любоў*** – судовае паседжаньне перанесенае на 25 красавіка;

***Лепін Георгі*** – судовае паседжаньне перанесенае на 23 красавіка;

***Вішнеўскі Зьміцер*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Садоўскі Лявон*** – пратакол правапарушэньня накіраваны ў РУУС на дапрацоўку і перакваліфікацыю з арт. 167-1 ч.1 на ч. 2 гэтага артыкулу;

***Карповіч Раман*** (жыхар Салігорску) – 10 сутак адміністратыўнага арышту;

***Хадневіч Васіль*** – штраф 20 базавых адзінак (200 тыс. беларускіх рублёў);

***Мурашка Казімір*** — штраф 25 базавых адзінак, (250 тыс. беларускіх рублёў);

***Бандарэнка Зьміцер*** (адзін з арганізатараў акцыі) – суд перанесены на 23 красавіка;

***Сьцешык Яраслаў*** – суд перанесены на 23 красавіка. З залы суда быў вынесены супрацоўнікамі міліцыі пад кіраўніцтвам старшыні Савецкага РУУС, паколькі адмаўляўся "шукаць адваката з камеры сьпецпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсьціна"

***Ясюк Алеся*** (жыхарка г.Барысаву, маці 4 дзяцей) – штраф у памеры 100 базавых адзінак;

***Карпенка Зьміцер*** (жыхар г.Гомелю) – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Халезін Мікалай*** (журналіст, адзін з арганізатараў акцыі) запатрабаваў удзелу адваката і быў адпраўлены зноў на Акрэсьціна – у сьпецпрыёмнік-размеркавальнік. З залы суда быў вынесены супрацоўнікамі міліцыі пад кіраўніцтвам старшыні Савецкага РУУС, паколькі адмаўляўся "шукаць адваката з камеры сьпецпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсьціна". Суд адбудзецца 23 красавіка.

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



*Суд Цэнтральнага раёну г. Мінску:*

***Пятроў Андрэй*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Голубеў Дзьмітры*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Бародка Зьміцер*** (жыхар г.Барысаў) – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Афнагель Яўген*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Суіч Віктар*** — 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Ігнатовіч Уладзіслаў*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Жакаў Васіль*** – суд перанесены на 23 красавіка ў сувязі з тым, што не зьявіліся сьведкі – супрацоўнікі міліцыі. Адпраўлены у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік;

***Масакоўскі Зьміцер*** – штраф у памеры 30 базавых адзінак (300 тыс. беларускіх рублёў);

***Радзюшка Аляксандр*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Мяцеліца Алег*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Сюльд Ігар*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Казакевіч Раман*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;

***Жлутка Алег*** – назіральнік ПЦ "Вясна", запатрабаваў удзелу адваката і быў адпраўлены зноў на Акрэсьціна – у сьпецпрыёмнік разьмеркавальнік. Абвясьціў галадоўку ў знак пратэсту супраць незаконнага ўтрымань-ня за кратамі.

*Суд Партызанскага раёну г. Мінску:*

***Рабкевіч Сяргей*** – 7 сутак адміністратыўнага арышту;

***Фабішэўскі Юры*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Аскерка Анатоль*** – 10 сутак адміністратыўнага арышту;

***Бубер Юры*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Купчанка Вераніка*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Атрошчанкаў Аляксандр*** – 5 сутак адміністратыўнага арышту;

***Яшчанка Аляксей*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Закрэўскі Ігар*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту. Абвясьціў галадоўку;

***Цэнунін Дзьмітры*** – 3 сутак адміністратыўнага арышту;

***Шчукін Валеры*** (журналіст, праваабаронца, адзін з арганізатараў акцыі) – 15 сутак адміністратыўнага арышту, быў моцна зьбіты падчас акцыі, а пасьля вывезены міліцыяй з рэанімацыі нейрахірургічнага аддзяленьня Ваеннага шпіталю ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік. Па словах В. Шчукіна, яго забралі "літаральна з-пад кропельніцы".

# Чацьвёра сутак на Акрэсьціна

## *Нататкі затрыманага*

У 18.00 19-га красавіка на плошчы Якуба Коласа павінна была пачацца акцыя сацыяльнага пратэсту «Так жыць нельга!». Узяўшы накіраваньне ў Праваабарончым цэнтры «Вясна», я пайшоў на яе, каб назіраць за ходам падзеяў.

Акцыя не была санкцыянаваная Мінгарвыканкамам, які даўно перастаў лічыць беларускіх грамадзянаў за людзей (зрэшты, ці ўвогуле калі-небудзь лічыў?) і ў чарговы раз перанёс месца сустрэчы на пляцоўку для выгулу сабакаў каля плошчы Бангалор. На плошчы Якуба Коласа сабралася каля дзьвюх тысячаў чалавек. Пасьля некалькіх кароткіх прамоваў удзельнікі акцыі ўтварылі калону і рушылі па ходніках у накірунку Кастрычніцкай плошчы. Наперадзе несьлі сьцягі, лозунгі з патрабаваньнямі павысіць стыпендыі, пенсіі, заробкі.

Было вядома, што ў дварах вакол прасьпекту стаіць шмат аўтобусаў з АМАПаўцамі, на кожным кроку стаялі ціхары-аператыўнікі... Можна было з упэўненасьцю сказаць, што будзе «хапун», але мала хто думаў, што гэтак хутка...

Дэманстранты змаглі прайсьці ўсяго метраў 500. Каля трамвайнай лініі іх сустрэў шчыльны кардон. Я ішоў ззаду і таму бачыў толькі галовы ў касках. Далей падзеі разьвіваліся імкліва. Вось калона разьвярнулася, заняла свабодныя палосы праезнай часткі і хутка, амаль бегам рушыла наперад. Праз секунд дваццаць, я нават не пасьпеў заўважыць адкуль, пад'ехала некалькі аўтобусаў з АМАПаўцамі, якія імгненна высыпалі адтуль як на захоп асабліва небясьпечных тэрарыстаў. Частка людзей пабегла ў бліжэйшую арку, каб уратавацца ўцёкамі праз двары, але АМАП быў і там. І тут людзі ў калоне ... пачалі прысядаць там, дзе стаялі! Праз секунд трыццаць на асфальце сядзела ўжо даволі шмат удзельнікаў акцыі. Чаму? Навошта? Няўжо гэтым людзям так абыякавае уласнае жыцьцё і здароўе? Не, зусім наадварот. З практыкі вядома, што "адважныя" ахоўнікі парадку асабліва зьвярэюць, калі чалавек уцякае або спрабуе сябе абараніць. І таму сядзеньне на зямлі дазваляла людзям схавацца адзін за аднаго, падтрымаць тых, хто быў побач, закрыцца рукамі ад удараў і хаця б убачыць, адкуль жа сыплюцца «ўзнагароды» дубінкамі...

Усё гэта я бачыў толькі краем вока. Насупраць мяне спыніўся аўтобус, у яго зацягнулі двух юнакоў і пачалі зьбіваць. Калі міліцыянты заўважылі, што іх «выхаваўчая дзейнасьць» здымаецца тэлеаператарамі, юнакоў павалілі на падлогу. Потым кінулі на заднія сядзеньні. Я падбег да аўтобусу і праз расчыненае акно пачаў пытаць у затрыманых прозьвішчы, каб потым паведаміць у «Вясну» і знайсьці іх родных. Але хлопцы былі ў шоку і толькі няўцямна пaглядалі на мяне шырока расплюшчанымі вачыма. Раптам мяне схапіў за руку чарнявы, коратка стрыжаны аператыўнік у скуранцы і са словамі: «Принимайте, через окно хотел поговорить!» перадаў тым, што былі ў аўтобусе. Я паказаў сваё назіральніцкае накіраваньне, на што мне адказалі «Можешь его себе в ж... засунуть!».

Вось так я і апынуўся побач з іншымі затрыманымі на заднім сядзеньні аўтобусу. Усё яшчэ спадзеючыся, што мяне выпусьцяць, я колькі разоў паўшэптам пытаў у хлопцаў іх прозьвішчы... Праз вакно мы ўбачылі, як АМАПаўцы цягнуць зьбітага Шчукіна. Сьпераду ў аўтобусе сядзела чалавек дзесяць міліцыянтаў у простай сіняй форме. Побач са мной у куце ўсхліпвала, трымаючыся за жывот, дзяўчына. Міліцыянты запыталіся нашыя прозьвішчы, узрост і правялі лёгкі вобшук. Дзяўчына нічога не адказала на іх пытаньні, бо яе моцна ўдарылі ў жывот, і ёй было кепска. Праз колькі хвілінаў яна сказала, што цяжарная і папрасіла ў міліцыянтаў выклікаць ёй "хуткую дапамогу". Яны не паверылі, і яна паказала на свой жывот. Тады ёй сказалі: няма чаго шастаць па мітынгах, калі цяжарная... Мы пачалі прасіць іх, каб выклікалі "хуткую" дзяўчыне. Адказам быў мат, мат і яшчэ раз мат... Але тое ня дзіва. У Беларусі брыдкаслоўе – адна з асноўных прыкметаў міліцыянта. Ён пакорна, па-халуйску церпіць лаянку начальства, затое адводзіць душу на затрыманых. Але сам, без загаду, ён вельмі рэдка што робіць. Нават калі чалавек будзе паміраць, міліцыянт спачатку зьвяжацца па рацыі з кіраўніцтвам і толькі потым "прыме" рашэньне. Так адбылося і гэтым разам.

Нарэшце аўтобус скрануўся з месца і даехаў да ўправы БНФ. Там міліцыянты бавілі час у размовах пра татараў, маскалёў і хахлоў. Мы зноў пачалі прасіць міліцыянтаў адпусьціць цяжарную, прычым казалі, што ў выпадку няшчасьця віна будзе на іх. Урэшце рэшт міліцыянты "здаліся" і патэлефанавалі свайму кіраўніцтву, якое загадала цяжарную адпусьціць...

Недзе хвілінаў праз дзесяць прыйшоў загад везьці нас – чатырох затрыманых, у Савецкі РУУС. На пад'ездзе ўжо чакаў канвой. Спачатку нас прывялі ў калідор на падвальным паверсе і выстраілі каля сцяны. Большасьць затрыманых сядзела ў зале, каля ўваходу ў якую стаяла некалькі АМАПаўцаў.

Міліцыянты мітусіліся як у мурашніку: фатаграфавалі затрыманых, забіралі пашпарты, бэджы, перапісвалі іхнія прозьвішчы, вызначалі, хто будзе пісаць рапарт на таго ці іншага арыштаванага. Зазвычай рапарт піша ня той, хто затрымлівае. Гэта добры спосаб пазьбегнуць адказнасьці нават у выпадку зьбіцьця затрыманага. У адваротным выпадку людзі, якіх затрымлівалі разам, маглі б засьведчыць такія факты, ня кажучы ўжо пра звычайныя

*(Працяг на стар. 6)*

***Сьведчаньне адной з удзельніцаў акцыі "Так жыць нельга!" Алены Рашэтнікавай:***

**"19.04. 2002 году я прысутнічала на акцыі "Так жыць нельга!": знаходзілася на плошчы Якуба Коласа разам са сваім братам Сяргеем Рабкевічам. На нашых вачах пачалі зьбіваць сталага мужчыну. Брат выйшаў на дарогу і стаў казаць АМАПаўцу, каб той не чапаў старога. Тады брата схапілі і пацягнулі да аўтобусу. Я пабегла сьледам з пытаньнямі: "За што забіраеце? Што мне рабіць? Куды тэлефанаваць?" Замест адказу мяне таксама зацягнулі ў аўтобус і павезьлі ў РУУС Савецкага раёну... Нягледзячы на тое, што дома ў мяне засталося малое дзіця, мяне пратрымалі 5 гадзінаў. Пасьля выпусьцілі з позвай у суд на 23.04. 2002 году".**

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# Апошняе слова Міхася Кукабакі

*(Працяг. Пачатак у мінулым нумары)*

**Суд дае Міхасю Кукабаку апошняе слова:**

*Кукабака:* Яшчэ і апошняе слова? Я быццам бы ўсё сказаў... Ну, добра.

Тут выступалі сьведкі маіх «злачынстваў». Я не асуджаю іх. Я лічу: як ні стараўся КДБ, яму не ўдалося ўсіх запалохаць. Раскажу такі выпадак. Аднойчы на працы да мяне зьвярнуўся адзін чалавек, ён – камуніст. Ён папрасіў у мяне пачытаць «Архипелаг ГУЛаг». Я даў. Калі ён узяў кнігу, спытаўся ў мяне: «А ты не баісься, што я пайду і аднясу гэтую кнігу куды-небудзь?» Я кажу: «Не, не баюся». Дык вось, калі я прагледзеў сьпіс сьведкаў, з вялікім задавальненьнем адзначыў, што ў ім гэтага чалавека няма. Значыцца, ён стрываў, не пайшоў супраць свайго сумленьня. І я падумаў: прыстойнасьць чалавека не залежыць ад яго палітычных перакананьняў. Я завочна дзякую ўсім людзям, якія маглі б стаць сьведкамі на гэтым судзе, але ня сталі, дзякую ім за тое, што яны здолелі адстаяць сваю чалавечую годнасьць.

Прапагандысты сьцьвярджаюць, што Кастрычніцкая Рэвалюцыя адчыніла новую эру. Я лічу, што кастрычніцкі пераварот (а гэта быў менавіта пераварот) адкінуў краіну на шмат гадоў назад.(...) Бо чалавек ня мог звольніцца з працы (моладзь дык гэтага ня памятае), за спазьненьне на працу саджалі ў турму, выхад з калгасу таксама быў немагчымы. За жаданьне выехаць з СССР, за адмову ад галасаваньня таксама саджалі ў турму. Чалавек ад нараджэньня разглядаўся як маёмасьць дзяржавы – гэта цягнецца да сёньня. Дзяржава пільнуе сваіх падданых так, як ёй падабаецца, у краіне лютуе цэнзура. Пашпарт – дакумент, які так абураў Уладзіміра Ульянава, быў уведзены зноў у 1932-м годзе і ператвораны ў сродак прыгону і дзяржаўнага кантролю. Праўду кажуць, савецкі пашпарт – гэта "бірка зьняволенага".

Савецкі сацыялізм – гэта велізарны канцэнтрацыйны лагер, які ахоўваюць сьпецыяльныя войскі. За мяжой таксама ёсьць памежная служба, але там яна сочыць, каб не было ўвозу ў краіну кантрабанды, наркотыкаў, у нас жа памежныя войскі палююць за людзьмі.

Гэты лад горшы за феадалізм, г.зн. у феадала можна было адкупіцца – заплаці яму грошы ды ідзі на ўсе чатыры бакі. Савецкая прапаганда сьцьвярджае, што ў СССР няма класаў і саслоўяў, яны быццам бы назаўсёды "упразднены". Я ж лічу, што саслоўны характар грамадзтва ледзь зьмяніўся. Раней у Расіі была нашчадкавая манархія, цяпер узнік "новы клас" – партыйна-савецкая бюракратыя, якая ператварылася ў своеасаблівую касту. Грошы цяпер ужо не зьяўляюцца формай платы неафіцыйных прывілеяў гэтага класу. Сакратары абкамаў і пракуроры ўжо не стаяць у чэргах па нікчэмныя тавары. Я не сумняваюся, што ёмістасьці лядоўні грамадзяніна пракурора істотна адрозьніваюцца ад "содержимого холодильника", прысутнае тут Любові Фёдараўны Кісель.

*Судздзя перапыняе:* Я пазбаўлю Вас слова! Гэта асабістыя выпады!

*Кукабака:* Асабістыя? Чаму ж? Я кажу пра клас. А служачыя КДБ. Гэта – таксама каста. Гэта – верны ахоўны сабака рэжыму, які...

*Судздзя:* Я вас папярэджваю! Не дапускайце выпадаў!

*Кукабака:* Ці я нешта ня так сказаў? Я выкарыстаў нелітаратурныя словы?

*Судзьдзя:* Выбірайце выразы! Што гэта такое: «КДБ – сабака рэжыму!»

*Кукабака:* Менавіта так, ахоўная лагерная аўчарка.

*Судзьдзя:* Я забараняю! Я перапыняю вас!

*Кукабака:* Добра, я ня буду. Дык вось, нам з дзяцінства ўнушаюць: ад кожнага па здольнасьцях, кожнаму – па ягонай працы. Як бы ня так! Лягчэй даведацца, які прыбытак мае амерыканскі сенатар, чым савецкі партыйны кіраўнік. А дзяржава называецца «народнай», і ўсе павінны ведаць – хто ёсьць хто.

Кіраўнікі выкарыстоўваюць службовыя аўтамабілі дзеля асабістых мэтаў, карыстаюцца масай прывілеяў. А народ – усё церпіць. Недалёка ад Бабруйску ёсьць вайсковы гарадок Кісялевічы – паглядзіце, якое забесьпячэньне там, а якое – у Бабруйску. Аб якой сацыяльнай роўнасьці і сацыяльнай справядлівасьці можа весьціся гаворка?

Кажуць, у краіне няма беспрацоўя. Але і Гітлер пазбавіў Нямеччыну ад беспрацоўя. Да ягонага прыходу да ўлады ў краіне было 6 мільёнаў беспрацоўных, а за тры гады ён забясьпечыў усіх працай, жыльлём, прыбыткам. А ў СССР, да прыкладу, беспрацоўе было зьліквідаванае толькі ў 1933-м годзе. Як, з дапамогаю якіх захадаў удалося гэта Гітлеру? А з дапамогаю таго ж, з чаго пачаў СССР: ён увёў кантроль за працоўным рухам, забараніў дэманстрацыі і забастоўкі. Трэба сказаць, што Гітлер у многім капіяваў савецкую сістэму. Ня мы ў яго, а ён у нас капіяваў. Напрыклад, нацыянал-сацыялістычныя суды таксама называліся народнымі. Ёсьць яшчэ адна казытлівая тэма. У час Другой сусьветнай вайны ў Еўропе выявілася – ваявалі ў арміі Гітлера – паўмільёна чалавек (маецца на ўвазе рускіх – *рэд.*). Як жа ж гэта магло здарыцца? Такой масавай здрады ня ведала аніводная краіна. Які ж тады гэта «рай», калі з яго бягуць паўмільёна чалавек? І гэта не было здрадай, бо здрада – гэта парушэньне добраахвотна ўзятых абавязкаў, а тут было вызваленьне ад навязанага, ад няволі.

Першае і другое права чалавека, дакладней, абавязак у адносінах да самога сябе – гэта адстаяць свае перакананьні. Я ня крыўджуся на сьведкаў. Я гляджу на іх, як на ахвяраў са-

**Сьведка на судзе Кукабакі Барысаў А.І., які працаваў разам з ім грузчыкам на заводзе «Вторсырьё», пачынае вельмі ўпэўнена:**

– *Барысаў:* Кнігу прыносіў... урыўкі... выпіскі.

– *Судзьдзя:* Якую?

– Салжаніцына.

– «Архіпелаг ГУЛаг», гэтую кнігу? А што ён казаў?

– На савецкую ўладу крычаў.

– А што ж ён пра яе дрэннае казаў?

– Грузчыкі яму кажуць: "Ты ж у сталоўцы за адным сталом з камуністамі сядзіш...»

– Члены брыгады давалі яму адпор?

– Так.

– А вось былі маладыя людзі – нават кватэру далі яму сваю. Пад штаб! Магнітафон далі – запісвай паклёпы! А гэтага нельга. Слухаць – іншая справа, настройвай прыёмнік і слухай! Але запісваць!..

– КДБ таксама слухае.

– Ну і КДБ слухае.

– І КДБ запісвае.

– Магчыма, і яны сабе на памяць запісваюць.

– Але ў іх запіс лепшы.

– А вы з Кукабакам запісвалі? Вы слухалі гэты запіс? Ягоны артыкул?

– Слухаў. Ды толькі ў ім няма нічога.

– Як, а пра мову?

– Так, так, грамадзянін судзьдзя! Я забыў!

– А пра тое, як бы ўсіх яўрэяў збыць?

*Умешваецца Кукабака:* Навошта вы так кажаце? Я – дэмакрат. Гэта камуністы або татараў, або немцаў зганяюць з родных зямель, а мы – дэмакраты...

*Пракурор – Барысаву:* Што гэта былі за запісы? Як вы ацэньваеце ягоны артыкул?

*Барысаў:* Вы ж самі ведаеце.

*Судзьдзя:* Мы ня слухалі.

– Шчыра кажу, нічога там няма. Гэты артыкул перадаваць можна.

– А другі?

– А там нічога не зразумела. Гэта КДБ ведае.

– Але запісвалі ж вы?

– Я не запісваў. Я тады яшчэ... – *робіць шматзначную пстрычку па шыі.*

– А што за артыкул Кукабака прапанаваў напісаць вам?

– Ён казаў: калі б ты напісаў пра недахопы нашыя – перадалі б.

– А вы што сказалі?

– Я кажу: пасадзяць.

– А дзе вы артыкул запісвалі, у чым доме?

– Мне ўчастковы сказаў нумар дому. Я нумар дому ня ведаў... *(сьмех у зале).*

– А ў чыім доме ён прасіў вас артыкул напісаць?

– Гэта там, дзе піва куплялі... *(сьмех).*

– Пры чым жа ж тут участковы?

– Не, я забыў. Гэта ў КДБ мне нумар дому сказалі. Такі чорны...



© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



вецкай сістэмы. Я баюся турмы, лагеру, дамоў для звар'яцелых. Я ж ужо не малады, мне 43 гады, і не такі здаровы, як можа тут здацца. Вось ужо і сэрца пабольваць пачало, і печань баліць... Я баюся новае турмы. Але больш любое турмы, я баюся хлусьні, подласьці і свайго ўдзелу ў іх. Я не саромлюся свайго званьня зьняволенага. Але мне горка, што я нарадзіўся ў гэтай краіне.

І не саромлюся, што амаль да 30 гадоў, сам быў паслухмяным вінцікам гэтай сістэмы. Але мае перакананьні даўно зьмяніліся. Я прыйшоў да поўнага разрыву з сістэмай. Так, я хачу выехаць з СССР і хацеў бы, каб мне далі гэтую магчымасьць. Я хачу жыць па сваіх перакананьнях, чытаць, што хачу, глядзець, што хачу. А вы мяне судзіце за гэтае жаданьне!.. Вось, казалі тут: Кукабака аднойчы ледзь не кінуўся біцца. Ды я за сваё жыцьцё не пакрыўдзіў чалавека, ніколі! Праўда, у зьняволеньні біўся, даводзілася адстойваць свой гонар. Я не зрабіў нікому дрэннага, а мяне судзяць як злодзея, кінулі ў камеру, прыраўнялі да злачынцаў. Тут, у Бабруйску, мяне трымалі ў адной камеры з Аляксандрам Званковым, які абрабаваў свайго суседа, да таго ж ён хворы на сіфіліс, і мы доўга сядзелі разам з ім і лячыліся роўнымі. Лепш бы я сядзеў у адзіночцы, але нават гэтага мне не даюць...

**Прысуд:**

Аб'яўляецца перапынак да 16-ці гадзінаў, і суд адпраўляецца на нараду дзеля вынясеньня прысуду. Пасьля перапынку аб'яўляецца прысуд. Пры гэтым выяўляецца, што ў зале няма аніводнага са сьведкаў, якія прысутнічалі ўвесь другі дзень працэсу, відавочна, КДБ выдаліў іх з будынку суда. Прысуд зачытваецца ў прысутнасьці 5 супрацоўнікаў КДБ, маёра канвойных войскаў, пяці канвойных вайскоўцаў і двух сяброў падсуднага.

У прысуд далучаныя ўсе эпізоды абвінавачаньня, нават не пацьверджаныя ў судзе. Аб'яўляецца, што М.Кукабаку прысуджаюць 3 гады пазбаўленьня волі з адбыцьцём у выпраўленча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.

Калі судовае паседжаньне аб'яўляецца закрытым і судзьдзя пакідае залу, М. Кукабака зьвяртаецца да яго з просьбай дазволіць перадаць копію абвінавачвальнага заключэньня дзеля захоўваньня даверанай асобе – В.А.Някіпелаву. Але судзьдзя махае рукой і ўцякае, прамармытаўшы: «Я ўжо ні пры чым, ні пры чым!»

М. Кукабаку выводзяць. Пасьля гэтага, В. Някіпелаў зьвяртаецца да судзьдзі, просячы дазволіць на належнае па законе спатканьне з асуджаным. Са скрыўленым ад злосьці тварам, судзьдзя Іваноў заяўляе: «А вось цяпер я ня дам вам спатканьня! Вы не сваяк асуджанага!»

Ён адмаўляецца ад прадастаўленьня сустрэчы, нягледзячы на тое, што напярэдадні, 20 чэрвеня, запэўніў В. Някіпелава ў тым, што спатканьне будзе дадзенае пасьля суда.

*Матэрыял узяты з часопісу* ***"Эпоха"*** *за люты-сакавік 2002 году. Пакінутая арыгінальная версія (пераклад на беларускую мову).*



Тацяна РЭВЯКА, Паліна СЬЦЕПАНЕНКА і Алесь БЯЛЯЦКІ на прэзентацыі.

# "Агляд-Хроніка..." у Варшаве

***16 красавіка ў Варшаве ў памяшканьні Фундацыі Конрада Адэнаўэра адбылася прэзентацыя польскага выданьня кнігі "Агляд-Хроніка парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2001 годзе". Выданьне было падрыхтаванае сумесна Цэнтрам адукацыі грамадзкай Польшча-Беларусь (Беласток, Польшча) і Праваабарончым Цэнтрам "Вясна".***


Выступае Яўген ВАПА.

Цікавасьць да сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі была відавочнай – на прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі замежных амбасадаў, шматлікіх СМІ – як польскіх, так і беларускіх, а таксама польскія калегі-праваабаронцы і прадстаўнікі арганізацыяў, што цікавяцца агульным станам справаў у суседняй краіне. Пра гэтую цікавасьць казаў у сваім вітальным слове кіраўнік польскага аддзяленьня Фундацыі Конрада Адэнаўэра Генінг Тэвіс.

Старшыня Цэнтру адукацыі грамадзкай Польшча-Беларусь Марцін Рэмбач падкрэсьліў, што ў Польшчы вельмі ўважліва сочаць за разьвіцьцём падзеяў у Беларусі, і таму выданьне польскага варыянту кнігі пра факты парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі – гэта крок да разуменьня сітуацыі, што склалася ў краіне, якая мяжуе з Польшчай на ўсходзе.

Пра тое, што "парушэньне правоў чалавека ў Беларусі – праблема актуальная", на прэзентацыі гаварылі супрацоўніцы інфармацыйнага аддзелу ГА ПЦ "Вясна" Тацяна Рэвяка і Паліна Сьцепаненка. Старшыня "Вясны" Алесь Бяляцкі выступіў з дакладам "Беларусь паміж Еўрапейскім Саюзам і краінамі СНД".

Падчас прэзентацыі адбылася дыскусія, на якой беларускім праваабаронцам задавалася шмат пытаньняў – як агульных, што тычыліся грамадзка-палітычнай сітуацыі ў краіне, так і па асобных гучных справах, пра якія ўзгадваецца і на старонках польскіх СМІ – асабліва наконт крымінальнага пераследу рэдактара гарадзенскай газеты "Пагоня". Міколы Маркевіча і журналіста гэтага выданьня Паўла Мажэйкі.

Прысутных цікавілі таксама асноўныя тэндэнцыі, якія склаліся ў Беларусі з парушэньнем правоў чалавека, усьведамленьне беларусаў сябе як часткі еўрапейскай супольнасьці альбо далейшага ўмацаваньня палітычных, эканамічных і іншых стасункаў з Расіяй. На гэтыя і іншыя пытаньні выказалі сваё меркаваньне беларускія праваабаронцы.

Было падкрэслена, што Праваабарончы цэнтр "Вясна", які займаецца маніторынгам парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі і выданьнем "Агляд-Хронік..." на гэтую тэматыку на працягу апошніх чатырох гадоў пачынаючы з 1998-га, шчыра вітае ініцыятыву польскіх калегаў у справе інфармаваньня грамадзкасьці суседняй краіны аб сапраўдным становішчы ў Беларусі.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**



Падчас прэзентацыі.



© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021





# Чацьвёра сутак на Акрэсьціна

(Пачатак на стар.3)

маральныя абразы. Беспакаранасьць – падмурак дзеля нахабства і беспадстаўнай жорсткасьці міліцыянтаў. Падчас затрыманьня супрацоўнікі міліцыі не прадстаўляюцца – яны проста хапаюць вас і цягнуць да аўтобусу, а ў выпадку супраціўленьня – б'юць. Даведацца іх прозьвішчы амаль немагчыма. Робіцца ўсё гэта па ўказцы начальства, якое зацікаўленае ў бесьперашкодным выкананьні ўсіх сваіх загадаў…

Між тым, не губляючы часу, затрыманыя зьбіралі інфармацыю і перадавалі на волю з дапамогай сотавых тэлефонаў. Міліцыянты праводзілі выбарачныя дагляды. У аднаго з затрыманых на маіх вачах адабралі тры зьвязаныя паміж сабою стужкі – дзьве белыя і адну чырвоную. Проста так, без складаньня нейкіх там актаў аб канфіскацыі і нават без вусных тлумачэньняў. Нашай міліцыі парушыць закон – гэта дробязь, начальства заўжды абароніць і ўратуе. А яшчэ ахоўнікі парадку зьдзекваліся з людзей, не дазваляючы ім схадзіць у прыбіральню.

Пасьля фатаграфаваньня і перапісваньня прозьвішчаў усіх затрыманых (каля 100 чалавек), нас перавялі ў залу. Праз нейкі час туды ў суправаджэньні міліцыі ўвайшоў чалавек з відэакамерай і пачаў здымаць. Людзі сьмяяліся: «Сам сабе рэжысёр!». Толькі потым, на волі, я даведаўся, што гэта быў апаратар БТ і здымаў ён для вячэрняй перадачы... Міліцыянты ў зале клявалі насамі, адны сыходзілі, іх месца займалі іншыя.

Сярод затрыманых была Алена Рашэтнікава, якая пакінула дома малое дзіцё. Калі прайшло тры гадзіны, людзі пачалі абурацца, што яе не адпускаюць, і скандаваць «Тры га-дзі-ны!». Манатонны гул дзейнічаў на нервы міліцыянтам, і ўрэшце рэшт яе адпусьцілі. Потым затрыманыя падышлі да дзьвярэй і пачалі патрабаваць, каб іх выводзілі ў прыбіральню, паколькі на звычайныя просьбы міліцыянты не рэагавалі. У гэты час непаўнагадовых пагрузілі ў аўтобус, які быў сьпецыяльна падаганы да РУУС, і колькасьць людзей у зале зьменшылася.

У адносінах да мяне супрацоўнікі міліцыі перастараліся і склалі ажно два рапарты, таму выводзілі з залы некалькі разоў, пакуль не разабраліся, што да чаго. Я напісаў свае тлумачэньні, указаў час складаньня пратаколу (было ўжо за 11 гадзінаў вечару) і запатрабаваў, каб яны далучылі да матэрыялаў справы маё накіраваньне…

З залы людзей выводзілі невялікімі партыямі. Спачатку наверх – у кабінет, дзе сядзеў нейкі міліцэйскі чын у цывільным, які правяраў, ці правільна складзеныя дакументы. Потым – уніз, у дзяжурку. Там абшуквалі, адбіралі шнуркі, кашалькі, ключы, іншыя рэчы, выдавалі копіі пратаколу дагляду і замыкалі ў камеры папярэдняга затрыманьня. Недзе праз гадзіну выпускалі з камераў, грузілі ў аўтобус і везьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на Акрэсьціна. Я быў у апошняй партыі. Міліцыянты недзе падзелі пашпарт аднаго з затрыманых – Рамана Казакевіча, і таму зноў зачынілі яго ў камеры. Астатніх дзевятнаццаць чалавек пагрузілі ў аўтобус і павезьлі.

У разьмеркавальнік нас прывезьлі каля 2.30 ночы. Спачатку завялі ў чацьвёртую камеру, праз гадзіну восем чалавек перавялі ў дваццаць другую. Заснуць там было амаль немагчыма – нары займалі амаль усю камеру, яны былі зусім гладкімі, і цела ўвесь час сасьлізгвала ў нязручную позу. Першы дзень мы прызвычайваліся да новага месца. Недзе гадзінаў у дзевяць прынесьлі кукурузную кашу. Я паеў яе з хлебам (адразу пачало пячы ў страўніку) і зразумеў, што пры двухразовым кармленьні ў мяне будуць вялікія праблемы. Чацьвёра з нас аб'явілі галадоўку. Запатрабавалі таксама асадку і паперу, каб напісаць скаргі пракурору на незаконнае пазбаўленьне волі. Я атрымаў перадачу, але не спыніў галадоўку і раздаў перададзенае тым, хто еў. Пад вечар галадаючыя напісалі заявы пра адмову ад ежы на імя начальніка сьпецразьмеркавальніку.

На другі дзень, у нядзелю, людзі з-за адсутнасьці месца пачалі хадзіць па нарах, на якіх былі накрэсьленыя дошкі для гульні ў шашкі, шахматы. Нехта зьляпіў шашкі з хлебу, якога выдавалі больш чым дастаткова. Пад вечар у камеры пачаліся "дыспуты" на розныя тэмы.

У панядзелак раніцай нас павезьлі ў суд. Чалавек дзесяць засунулі ў агульную камеру аўтазака, яшчэ чатырох – у клеткі меншых памераў, а ў камеру з суцэльнымі дзьвярыма адну з затрыманых дзяўчын – Маргарыту. Па дарозе заехалі ў РУУС па рэчы. Сядзець было цесна і душна. У аўтазаку я прабыў каля шасьці гадзінаў і толькі потым трапіў у суд. Канваіры забаранялі маці перадаваць мне ваду. На судзе я патлумачыў свае абавязкі назіральніка, заявіў хадайніцтва аб прадастаўленьні адваката. Адвакат параіла пагадзіцца на разгляд справы бяз сьведкаў-міліцыянтаў, каб зэканоміць час, відаць, спадзеючыся, што я атрымаю трое сутак. Але судзьдзя ўсё ж вырашыла выклікаць сьведкаў, перанесла суд на аўторак і загадала завесьці мяне назад у аўтазак.

Вяртаючыся з суда, кожны казаў астатнім, колькі сутак ён атрымаў. Судзілі па канвеерным прынцыпе: звычайна па першай частцы артыкулу 167.1 КаАП давалі пяць сутак, а тым, хто праходзіў па другой частцы (арганізацыя або паўторнае затрыманьне за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве на працягу году) – ад 10 да 15 сутак. Мінімальным прысудам было трое сутак. Тых, хто хадайнічаў аб адвакаце, адпраўлялі назад на Акрэсьціна.

Прыехаўшы ў разьмеркавальнік, мы здалі асабістыя рэчы. Нас з Васілём Жакавым завялі ў пустую восьмую камеру. Крыху пазьней да нас прывялі Ярэка з Салігорску. Нары ў камеры былі шурпатымі і ляжаць на іх было зручней. Апрача таго, у камеры мелася месца, каб пахадзіць. Але заснуць ноччу мне было цяжка (пры галадоўцы цяжэй сагрэцца). Назаўтра раніцай нас з Васілём павезьлі ў суд на тым самым аўтазаку. З намі ехалі яшчэ двое чалавек. Па дарозе завезьлі ў нейкі двор, нас з Васілём спусьцілі ў падвал і там замкнулі ў камеры. Двух астатніх павезьлі ў суд Савецкага раёну. Праз паўгадзіны нас забраў «варанок» і павёз у суд Цэнтральнага раёну.

Васіля судзілі першым. Мае канваіры спалі, разьлёгшыся ў варанку. Я мог назіраць за імі праз адтуліны ў дзьвярах камеры. Праз дзьве гадзіны і мяне вывелі на суд. Я быў апрануты ў сінюю сарочку, а чорная куртка, у якой мяне затрымалі, ляжала ў торбе.

На судзе АМАПаўцы Коўзік ды Ілімовіч давалі стандартныя сьведчаньні, тыпу «Быў на праезнай частцы, бліжэй да цэнтру, у першых шэрагах калоны, выкрыкваў «Жыве Беларусь»!, «Ганьба!», і г.д. Пры гэтым яны часта адводзілі ўбок вочы. Было цікава іх разглядваць. Увогуле тое, што адбывалася, нагадвала ня суд, а кепска пастаўленую камедыю. Ніхто са "сьведкаў" так дакладна і не сказаў, у што я быў апрануты пры затрыманьні, хаця я ў іх і пытаўся. Адвакат прадставіла суду даведку аб тым, што ў мяне хранічная хвароба страўніка і папрасіла ўлічыць той факт, што рэжым харчаваньня на Акрэсьціна не адпавядае маім патрэбам.

У перапынку бацькі нарэшце змаглі перадаць мне бутэльку мінеральнай вады, а «сьведкам» прачыталі лекцыю пра будучую адказнасьць за злачынствы. Але тыя і без таго пакутавалі, не маглі ўседзець на месцы і хадзілі з кута ў кут хуткімі крокамі, хаваючы вочы ад людзей.

Судзьдзя Паўлючук вынесла пастанову наконт мяне: вінаваты, чацьвёра сутак зьняволеньня. Гэта было зусім няблага, бо заставалася даседзець каля пяці гадзінаў. Мяне зноў завезьлі на Акрэсьціна, у дзевятнаццатую камеру. Людзі, якія атрымалі большыя тэрміны, называлі тэлефоны, прасілі патэлефанаваць родным, тое-сёе перадаць на словах…

23-га красавіка, 18.50. Я выходжу на волю. Гэтыя чацьвёра сутак далі мне нямала. Я змог на ўласныя вочы пабачыць легендарнае Акрэсьціна і прайсьці праз усё тое, праз што праходзяць затрыманыя. Найбольш мяне ўразіла, што некаторыя з іх сёлета ўжо атрымлівалі адміністратыўныя пакараньні, аднак прыйшлі на акцыю нават ведаючы, што могуць атрымаць да 15 сутак арышту.

**Алег ЖЛУТКА.**


Фота "ПнВ"

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# "Чарнобыльскі шлях-2002"


Фота "ПнВ"

26 красавіка ў Мінску адбылося традыцыйнае жалобнае шэсьце "Чарнобыльскі шлях-2002", якое было прымеркаванае да чарговых – шаснаццатых – угодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Удзельнікі Шляху сабраліся ў 17.30 каля Акадэміі навук РБ. Перад пачаткам шэсьця адбыўся мітынг, падчас якога выступоўцы казалі, што ўлады ўтойваюць праўду пра рэальныя наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Сярод прамоўцаў былі прадстаўнікі апазіцыйных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў, а таксама людзі, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі – інваліды Чарнобылю. Пасьля кароткага мітынгу калона ўдзельнікаў шэсьця рушыла па прасьпекце Скарыны, і далей па вул. Сурганава. Наперадзе несьлі званы і абраз – як знак жалобы.

Каля універсаму "Рыга" памяць пра ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы была ўшанаваная маўчаньнем – удзельнікі шэсьця 16 хвілінаў стаялі моўчкі з запаленымі сьвечкамі...

# Трагедыя ў Курапатах

***У ноч з 18 на 19 красавіка быў спалены намёт з абаронцамі месца пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў ад варварскага зьнішчэньня...***

Абаронцаў Курапатаў, якія вось ужо больш за паўгода трымаюць сваю вахту, апошнім часам спрабуюць ня толькі зламаць фізічна, але і ў значнай ступені дыскрэдытаваць іх барацьбу. Самаабвешчаная група "Сумленьне Курапатаў" цяпер закідвае рэдакцыі беларускіх СМІ паведамленьнямі пра нібыта бясконцыя п'янкі сярод абаронцаў і яшчэ чорт ведае пра што. Праўда, пры гэтым "сумленныя" чамусьці забываюцца паведаміць, што гэта менавіта іх саміх за спробы непрыстойных паводзінаў у сьвятым для беларусаў месцы выштурхоўвалі з Курапатаў. Аднак, каб яшчэ раз пераканацца, што спробы зганьбаваць абаронцаў Курапатаў ня маюць пад сабою глебы, я вырашыў зноў наведаць урочышча. Пабываўшы там, у чарговы раз з усёй адказнасьцю магу заявіць: спадары крытыкі, вы ня маеце рацыі. П'яных сярод абаронцаў Курапатаў я ня бачыў. Былі толькі ўсюдыісныя прыхільнікі пікнічкоў з бліжэйшых мінскіх дамоў. Дарэчы, той факт, што фармальна ахоўваемая дзяржавай зона дагэтуль не абнесеная надзейным плотам, мала турбуе адказных асобаў.


Усё, што засталося ад намёту абаронцаў...
Фота "ПнВ"

Хлопцам і дзяўчатам, якія дзяжураць у Курапатах, у шматлікіх публікацыях у дзяржаўнай прэсе ставяць у віну той факт, што праца будаўнікоў па пашырэньні і добраўладкаваньні мінскай кальцавой дарогі ў мікрараёне Зялёны луг-7 і ўрочышчы Курапаты ня скончаная, як планавалася, да 1 красавіка. Маўляў, насуперак быццам бы ўзгодненай з грамадзкасьцю праектнай дакументацыяй, абаронцы не даюць засыпаць пяском прыдарожныя 20-30 см. Як патлумачыў мне адзін з лідэраў валанцёраў, казаць пра поўную ўзгодненасьць пазіцыяў бакоў пакуль рана, спрэчкі працягваюцца. Апроч таго, хлопец нагадаў, што нават там, дзе разыходжаньняў не назіралася, будаўнікі часам самі адыходзілі ад праекту, што ў такой далікатнай справе проста недапушчальна.

У адным з каментароў у дзяржаўнай прэсе невядомы аўтар наракаў на тое, што намёт абаронцаў стаіць ля самай дарогі і замінае будаўнікам. Нагадаю, што паміж дарогай і намётам добрыя сем метраў і адзначу дзіўную "апературнасьць" выданьня. Прэтэнзіі пабачылі сьвет раніцай у пятніцу, а ў ноч з чацьвярга на пятніцу невядомыя намёт падпалілі.

У гэтую ноч дзяжурылі тры чалавекі – Аляксандр Поклад, Васіль Парфянкоў і Ірына Вяткіна. Намёт загарэўся каля 3 гадзінаў ночы, Васіль Парфянкоў першым пачуў пах дыму. Вось што ён распавёў супрацоўнікам ПЦ "Вясна": "Я выскачыў, схапіў вогнетушыльнік. Верх намёту палаў ва ўсю, уваход таксама гарэў. Я колькі разоў пырснуў вогнетушыльнікам, але пена ў ім хутка скончылася. Я заскочыў у намёт, пабудзіў Ірыну – яна таксама выскачыла. Там заставаўся яшчэ Аляксандр Поклад. Ён ня змог адразу выскачыць. І ўжо калі ўсё пачало гарэць, абвальвацца, ён стаў крычаць, і мы яго праз вакно выцягнулі, выклікалі "хуткую дапамогу" і міліцыю... Аляксандра Поклада забралі ў шпіталь...".

Між тым другая ўплывовая газета яшчэ напярэдадні падпалу адпаведным чынам рыхтавала грамадзкую думку, паведаміўшы пра ўсё тую ж міфічную дамоўленасьць бакоў. Вось і паўстае пытаньне: дык каму ж было выгадна тое, што адбылося?

Сумненьні ў скептыкаў выклікае і небясьпека, якой штодня падвяргаюць сябе актывісты руху "За выратаваньне Курапатаў". На гэта можна толькі параіць крытыкам падзяжурыць разам з хлопцамі і дзяўчатамі хаця б ноч-другую. Шчыра кажучы, я зрабіць тое ня здолеў. Дарэчы, у пятніцу, 19 красавіка, увечары да іх зноў наведаліся п'яныя неанацысты, але, убачыўшы колькасную перавагу абаронцаў, палічылі за лепшае сысьці. Аднак абяцалі вярнуцца. Чакаць іх я ня стаў, а толькі ў чарговы раз згадаў ранейшыя напады на імправізаваны лагер. Тут пабывалі ўсе: скінхеды, міліцыянты, проста "адмарожаныя" валацугі. А маладыя людзі ўсё яшчэ змагаюцца... Самае, на мой погляд, абсурднае абвінавачаньне іх – быццам абаронцы Курапатаў парушаюць закон аб ахове помнікаў. Аказваецца, закон парушаюць ня тыя, хто пракладае праз могілкі дарогу, матывуючы такі крок эканоміяй сродкаў, а тыя, хто спыніў варварскае будаўніцтва, і ні на гадзіну ня кінуў абарону месца масавых пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў! Бач ты, укапалі ўздоўж алеі "сапраўдны частакол" з новых крыжоў, што быццам бы "парушыла ансамбль" і нават "стварыла нейкую лубочнасьць". Лухта! Дыхтоўныя, у два з паловай метры вышынёй, зробленыя з габляваных сасновых брусоў, амаль на метр укапаныя ды ўмацаваныя камянямі крыжы вельмі арганічна ўтвараюць своеасаблівы "Шлях на Галгофу".

Так, гэтае відовішча, як і пастаянная прысутнасьць у курапацкім лесе неабыякавай да сваёй гісторыі моладзі "мыліць" вока прыхільнікам "нямецкага сьледу" злачынства ці "пакаяньня і прымірэньня". Ім надакучыла тэма Курапатаў, і яны імкнуцца як мага хутчэй паставіць на ёй кропку. І моладзь ім перашкаджае.

**Вадзім ДОЎНАР.**

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021





# Паляваньне на "ведзьмакоў"

## Лукашэнка распачаў новую кампанію па зьнішчэньні беларускай культуры, літаратуры, мовы...

У сярэдзіне красавіка сярэднія школы Беларусі атрымалі цыркуляр, падпісаны міністрам адукацыі РБ П.Брыгадзіным. У дакуменце паведамляецца, што з ліку дысцыплінаў, абавязковых пры здачы выпускных іспытаў, выключаецца беларуская літаратура. Цяпер выпускнік можа здаваць альбо не здаваць гэты іспыт па ўласным жаданьні. Такім чынам у беларускіх школьнікаў зьнікае апошні стымул вучыцца і размаўляць па-беларуску. Бо да іспыту трэба было рыхтавацца: чытаць і пераказваць творы, вучыць на памяць вершы. А цяпер гэта можна не рабіць. Дэмакратызацыя па-беларуску называецца. У краінах, дзе моўная сітуацыя нармальная, такі крок і сапраўды мог бы выглядаць дэмакратычным. У нас жа гэта ёсьць яшчэ адзін удар па прэстыжу мовы карэннай – русіфікаванай – нацыі. На Беларусі было ўжо штосьці падобнае за хрушчоўскім часам: тады школьнікі маглі адмовіцца ад вывучэньня роднай мовы. Тлумачылася гэта проста: маўляў, калі пры блізкім ужо камунізме ўсе нацыянальныя мовы Савецкага Саюзу арганічна і зладжана зьліюцца ў адную – адзіна правільную і палітычна выверaную – рускую, дык навошта губляць час на вывучэньне беларускай! І што ж – адмаўляліся! Як адмовіліся б, калі б быў на тое такі ж вышэйшы дазвол, ад вывучэньня фізікі ці матэматыкі. Нешта падобнае ў адносінах да нацыянальнай літаратуры на беларускіх абсягах культывуецца і зараз – але ўжо ў сваёй нацыянальнай дзяржаве. Дарэчы, ці ёсьць яшчэ ў сьвеце краіна, насельнікі якой добраахвотна, па ўласнай ініцыятыве, вырашалі быць ім грамадзянамі ды гаспадарамі на сваёй зямлі, паважаць ім родную культуру (найперш мову сваю ды літаратуру), заставацца сьвядомымі носьбітамі нацыянальнага гонару і культуры альбо не. Так, няма такой краіны. Апроч, хіба, Беларусі...

Нават апошні школьнік-двоечнік цяпер цудоўна ўсьвядоміў: калі можна не здаваць іспыт па беларускай літаратуры, дык ці варта стaвіцца сур'ёзна да вывучэньня яе, гарбець над творамі Багдановіча ды Гарэцкага, вучыць на памяць вершы Гілевіча ды Барадуліна? А таму, мяркуючы па перадэкзаменацыйных сацыялагічных апытаньнях, прэстыж роднай літаратуры ў беларускіх школах цяпер зьведзены ледзь не да нуля. Здаваць іспыт па літаратуры зьбіраюцца лічаныя школьнікі...

Але вернемся да міністэрскага загаду. Што гэта: свавольства П. Брыгадзіна, выкліканае шкодніцкім неразуменьнем неадкладнай патрэбы разьвіцьця і ўмацаваньня беларушчыны? Ды не! Проста акурат такое аблічча мае на сёньня беларуская дзяржаўная палітыка, якая ня проста цураецца ўсяго беларускага, але мэтанакіравана яго зьнішчае. І за ўсім гэтым, натуральна, воля прэзідэнта Лукашэнкі, без указаньняў і загадаў якога, як вядома, і карова ў самым занядбаным калгасе не ацеліцца...

"Разабраўшыся" з мовай, улады намерыліся паставіць крыж і на беларускай літаратуры. І метады выкарыстоўваюцца тыя ж – езуіцкія: усё зроблена дзеля таго, каб ініцыятыва адмовы ад усяго нацыянальнага ішла зьнізу. Гэта ж, маўляў, ня ўлада грэбуе мовай ды мастацкай кніжкай, на ёй напісанай, а сам беларускі народ.

Што зробіш, калі ў першага прэзідэнта Беларусі такія жыцьцёвыя прынцыпы. Проста выхаваньнем Аляксандра Рыгоравіча ў свой час займаліся ня столькі бацькі, колькі савецкая ўлада ды кампартыя, ня схільныя да такіх сантыментаў, як сумленнасьць, дасьведчанасьць ды чалавекалюб'е. Таму Лукашэнка ўмее і можа ўсё. Не бяз посьпеху перакроіў беларускую палітыку, узяўшы трывалы курс на гітлераўскія метады кіраваньня. Вельмі хутка ўзьняў на неймаверныя вышыні (вышэй калена!) нацыянальную эканоміку, сьцьвердзіўшы ня без падстаў, што шчасьліўцы-беларусы будуць жыць кепска, але нядоўга. І таму наступ на беларускую літаратуру выглядае цалкам лагічным. Як, дарэчы, і на беларускіх літаратараў. Бо менавіта тут знаходзіўся адзін з апошніх асяродкаў вальнадумных носьбітаў нацыянальнай духоўнасьці. Чаму Лукашэнка ўзяўся за пісьменьнікаў? Скажыце, а хто з тых літаратараў падтрымлівае ягоны антыбеларускі курс? Адзінкі. Так, адзінкі, і тыя бліжэй да звычайных графаманаў, пэцкальнікаў паперы, чым да сапраўдных мастроў слова.

Беларускія пісьменьнікі ў сваёй большасьці не падтрымліваюць палітыку Лукашэнкі і палітыка Лукашэнку. А таму прыйшоў неадкладны час і іх загнаць пад лаву. Катэгарычна, без сантыментаў і інтэлігенцкай гуманнасьці. І гэта вельмі характэрна для прэзідэнта, які літаральна гоніць Беларусь да сьветлай будучыні пад нязьменным дэвізам: "Хто не са мной, той супраць мяне!" Працэс бессаромнага цкаваньня пісьменьнікаў з кожным днём набірае тэмпы. Гэткае паляваньне на ведзьмакоў, мэта якога – сплямыць, абылгаць, зьмяшаць з брудам усё спрадвеку беларускае. Звольненыя з пасадаў галоўныя рэдактары літаратурна-мастацкіх часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Крыніца", "Нёман". Усе гэтыя часопісы, што былі самастойнымі, сагнаныя ў адзін "калгас" – установу, якую ўзначаліў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Сяргей Касьцян, шырока вядомы сваімі славянафільскімі і камуністычнымі поглядамі. Прызначаны на гэтую пасаду ён міністрам інфармацыі па асабістай прапанове Лукашэнкі. Пры гэтым бессаромна былі парушаныя Закон аб друку, статуты выданьняў, правы іх заснавальнікаў... На месцы вальнадумных рэдактараў названых часопісаў прызначаныя лаяльныя да ўладаў "таварышы". Дзеля чаго, думаецца зразумела: каб прапагандаваць і апяваць у высокамастацкіх творах "посьпехі" Лукашэнкі ў эканоміцы, сельскай гаспадарцы і на ніве зьнішчэньня беларускай культуры. Пад пагрозай звальненьня і радавыя супрацоўнікі часопісаў, асноўнай бядой якіх стала ня столькі жаданьне пісаць тое, што думаюць, колькі ўласьцівасьць увогуле думаць пра лёс Беларусі, пра яе будучыню.

Ад сваіх адданых падначаленых Лукашэнка патрабуе ў першую чаргу таго, што віртуозна ўмее сам – хлусіць. Адкрыта, у вочы, бяз сораму. Свае асабістыя здольнасьці ў гэтым Лукашэнка паказаў падчас нядаўняга выступу на расійскім тэлеканале НТВ: ён настойліва пераконваў тэлегледачоў, што выхоўваўся ў школе на вершах Васіля Быкава (прызнаны ў сьвеце празаік ніколі вершаў не пісаў, не друкаваў, а тым больш не было іх у школьнай праграме...). Хвалілі на НТВ Лукашэнку за тое, што ўсяляк падтрымлівае Саюз беларускіх пісьменьнікаў, хоць на самой справе супрацоўнікі Саюзу амаль год не атрымліваюць заробкаў, за тое, што перыядычныя беларускамоўныя выданьні знаходзяцца ледзь не пад бацькоўскай апекай – зноў хлусьня, бо супрацоўнікі беларускамоўных літаратурных часопісаў таксама не атрымліваюць заробку і грошай на друкаваньне сваіх выданьняў. Хвалілі, бо ня ведаюць, што сапраўды адбываецца сёньня на Беларусі. А можа – ня хочуць ведаць?

На Беларусі цяпер пануе татальная мана. На ўсіх ключавых пастах – верныя паслугачы прэзідэнта, прафесійныя непрафесіяналы-хлусьняры, выхаваныя ў дзяцінстве на "вершах Васіля Быкава". Ня буду зьдзіўляцца, калі ў асабістых інтарэсах Лукашэнка абвесьціць сёлетнюю вясну кепскай зімой. Хіба ж немагчыма гэта ў краіне "непалоханых ідыётаў"?

**Алесь ГАРКУН.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі:
220013 Менск, а/с 49.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021